Людміла Рублеўская



# Замак месячнага сяйва

Людміла Рублеўская



# Замак месячнага сяйва

Вершы

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1992

ББК 84Бел7
Р82



Значительное место в книге Людмилы Рублевской занимают стихотворения и баллады на историческую тему — как про конкретное время и конкретных личностей — от Ефросиньи Полоцкой до Валентина Тавлая, так и мифологически-притчевые.

Поэтесса родилась и живет в городе, и не удивительно, что у нее много стихотворений о городе, его прошлом и нынешнем дне.

Р $\frac{4702120202-040}{М 302(03)-92}$ 76—91

ISBN 5-340-00667-0

# ЗАМАК
# МЕСЯЧНАГА СЯЙВА

*Калі канчаецца жыццё,*
*Над палігонам грэшнай славы*
*Святлее, як само выйсцё,*
*Мой замак месячнага сяйва.*

*Прытулак душаў ільдзяны,*
*На могілках агульных помнік,*
*Бясстрасны сведка даўніны —*
*Святы, пракляты, забабонны.*

*І пугачы сляпой начы*
*Туды адносяць сны людскія,*
*І срэбны рыцар срэбны шчыт*
*На востры дах яго закінуў.*

*Тут не магіла, не турма —*
*Спакой над шчасцем і бядою,*
*Ды не над тым, чаму няма*
*І быць не можа супакою.*

*Таму праз цёмны небакрай*
*Гараць у вокнах замка зоркі.*
*«Радзіма бедная, трывай.*
*Не згасні...» —*
*І гасне шэпат горкі.*

## РАГНЕДА

Чаму яго ты не забіла,
Чужынца, бабніка, забойцу?
Якая сіла нож спыніла —
Кальчуга? Шлюбны сон? Жаноцкасць?

Ты — не забіла... Не парвала
Ахвяр і хціўцаў сувязь злую.
І ў божай ночы пакрывале
Зямля твая, як ты, вякуе.

Крывавы Полацк не счакаўся
Крывавых Кіева маленняў...
Не дыяменты-слёзы — стразы,
Падробкі — ты ліла, напэўна,

Князёўна — болей не князёўна,
Княгіня — болей не княгіня,
Пры ўладары — п'яным і сонным,
Па скошанай, як луг, радзіне.

Ты мусіла забіць, Рагнеда!
Ты столькі год жыла рабыняй,
Кляла яго — ды ён — не ведаў,
Нянавісць прывівала сыну,

І — ўсё дарма...
Твае нашчадкі
Павязаны чужой крывёю.
Іх будуць ваяваць спачатку,
Пасля — пазбавяць сілы вояў,

Пасля — імя сваё прыўлашчаць,
І будзе край гібець бяссілы...
Твой муж цябе задоўга лашчыў.
Чаму яго ты не забіла?

...Вось ён глядзіць на нож дарэмны,
Усмешка злая крывіць вусны.
Ідзі, няўдалая царэўна,
Далоў з вачэй, да Белай Русі...

## КРЫВІЧАНКА

*Віктару*

Спяшайся, любы!
Зарыва ў акне —
Сцякаюць зоры! —
плавяцца нябёсы.
І праступаюць
плямы на сцяне,
І ў Маці на іконе
свецяць слёзы.
Спяшайся, любы!
Вершнікі плывуць —
О цуд! —
над вострымі зубамі лесу,
І месяц долу
хіліць галаву.
Я чую
нашых слаўных продкаў
песню.
Спяшайся, любы!
На крывавы сон,
На рэчаіснасць,
горшую за блёкат,
Бо разгайдаўся
нашых продкаў звон,
І гук яго
плыве-ляціць высока.
Спяшайся, любы!
Ля варот —
бяда,

Бяда — і доўг.
І доўг — і смерць, магчыма,
Спяшайся!
У цябе, каханы, там —
Я і Радзіма
будзем за плячыма.

## ЕФРАСІННЯ

*(Балада аб жаночай волі)*

На фрэсках лік яе жаўцее,
Сухі, як ліст, і гожы цяжка...
Прадслава, ўнучка Чарадзея,
Упарта хоча стаць манашкай.

«Навука дзеўку папсавала!» —
Старыя па вуглах скуголяць.
Але яна была — Прадславай!
А слава вымагае волі.

Счарнеў аж з твару
горды бацька.
Жаніх гульбою ганьбу глушыць.
А маці!..
Што ж казаць пра маці...
А слава да таго ж —
і мужнасць.

Жанкі!
Такі наш выбар будзе
Паўсюль, няўмольна і адвечна:
Ці — крыж на маладыя грудзі,
Ці — церам з цемрай чалавечай.

Балюча нам даецца воля.
Заплаціш мужнаю душою.
А дзеці?!
Што належыць болей —
Сваё радзіць! Вучыць чужое?

І што на што мяняць не варта —
Ні адгадаць,
ні прадугледзець...
...Прадслава хоча стаць упарта
Святой —
і вольнаю, як вецер.

## БАЛАДА ПРА ЯКУБА ВЕНЖЫКА

Да зямлі прыпалі ў скрусе
Аксамітавыя травы.
Едзе Венжык з Беларусі,
Да Ягайлы едзе ў Кракаў.

Перасохлая іглiца
Сыпецца каню пад ногі,
Прыдарожныя капліцы
Рушнікамі вецер ловяць.

Едзе Венжык да Ягайлы.
Мякка сцелецца дарога.
Маляваць у Польшчы стане
Караля ён маладога.

Едзе Венжык, круціць вусы,
Сам, нібы кароль, шчаслівы.
Едзе з роднай Беларусі
Бесклапотны, аж надзіва.

Едзе з Беларусі — быццам
Да сваёй каханкі — ў госці.
І не думае
калісьці
На чужым спачыць пагосце.

Не сумуе, што ў няволі
Звяне талент, як пралеска,—
Маляваць яму дазволяць
Толькі воблік каралеўскі,

Веліч трона, Польшчы веліч,
Веліч залатых саетаў...
З Беларусі едзе Венжык,
Тварам і душою светлы.

Сонца за лясы сплывае,
Цень паўзе па следзе сумны...
А зязюля ўсё кувае:
«Ты куды, Якубе, дурню?»

## СКАРЫНА Ў ПРАЗЕ

Зноў Багемская Камора
Шле свой допіс Фердынанду:
«Пан Францыск, садоўнік новы,
Завіхаецца не надта.

Трэба гнаць яго без жалю
Ці рабіць, як след, прымусіць.
Лайдака сюды прыслалі
Нам з якойсьці Белай Русі!»

Вулкі пражскія святлеюць
Цёплым снегам тапаліным.
Па замеценай алеі
Сам ідзе мудрэц Скарына.

Снег таполевы знікае
На сівым яго валоссі.
Там, у родным белым краі,
Вецер пух таксама носіць...

Пан садоўнік, столькі сілаў
Ты ахвяраваў асвеце,
Каб зрабіўся іх магілай
Каралеўскі сад — і вецер.

Бібліі жывое цела
Разрывае поп рукамі...
Пан садоўнік, ты пасеяў
Зерне на сцюдзёны камень...

І твае гарачь усходы
У кастрах Масквы і Вільні,
Бо над Захадам і Ўсходам
Нецярпімасць — бог адзіны.

Пан садоўнік, пан Скарына
Па алеях саду крочыць.
Цёплым снегам тапаліным
Засыпае вецер вочы...

А Багемская Камора
Крэхча, грошы лічыць, піша,
Піша пра беларусіна,
Што садоўнік ён няўвішны.

А Багемская Камора
Хоча ягад размаітых...
...І ляціць на чэшскі горад
З Русі — попел белы літар.

## ПАЛЯВАННЕ КАРАЛЕВЫ БОНЫ

Паліць вусны пал, як воцат.
Пушча. Коні. Зброі ззянне.
Каралева Бона Сфорца
Пачынае паляванне.

Як палаюць шчокі ярка
І ў вачах пыхлівасць стыне
Белай Русі валадаркі
З валасамі залатымі.

Вось абапал гордай Боны
Рыцары — ліцвінскі з ляшскім,
Закаханыя абодва
Без надзей на дотык ласкі.

І дарма так прагна воі
Позірк ловяць каралевы:
Спеліць плод яе любові
Залатое ўлады дрэва.

Толькі ўлада! Дзеля ўлады
Трубіць рог, палае сэрца
І загнаны звер калматы
Са стралою ў горле б'ецца.

Толькі ўлада! І жанчына
Арбалет трымае цвёрда.
І тужлівы рык звярыны
Паляванню —
ўзнагарода.

І — чуйдух!
                    Ахвярай новай
Будзе воўк і новы рыцар,
І ў кароне яснай Боны
Промнем больш пачне іскрыцца.

Каралева едзе конна
Белавежскаю дарогай,
Не кахаючы нікога,
Не шкадуючы нікога.

Рог турыны — голас боскі.
Вецер шлейф матляе вузкі...
...Справа плача — рыцар польскі,
Злева — рыцар беларускі.

2. Зак. 5249.

# БАЛАДА
# ПРА ЯНКУ КОКЛЮ

Спеў лунае срэбнакрылы,
Голубам у небе кружыць —
Гэта ў Полацкай Сафіі
Рускі цар малебен служыць.

Як узнёсла славіць волю
Ад паноў вялікапольскіх
Срэбны голас Янкі Коклі —
Пеўчага па волі боскай.

І ніхто яшчэ не ведаў,
Што па беларускім краі,
Нібы ў клетку птушак рэдкіх,
Рускі цар майстроў збірае.

Вось і зараз — ён прыкмеціў
Голас дзіўнай прыгажосці.
Значыць, хутка Кокля едзе
Да цара Расіі ў госці.

Высцелюць табе рублямі
Да Масквы прамую сцежку.
Толькі ў гэтым белым храме
Больш табе душы не цешыць.

Можа, там заплацяць болей,
І з'ясі смачней кавалак.
Абрусееш там паволі,
Станеш важны, станеш сталы,

Дзетак выведзеш у людзі.
Маскалямі стануць дзеткі.
Беларусь клясці не будзе
Птушак у расійскіх клетках.

Беларусь не абяднее
Без адной каліны ў лузе,
Без тваёй салодкай песні...
Ну а ты — без Беларусі?

...І адчайна — згледзеў быццам —
Цэляць у яго стралою —
Аж пад купалам забіўся
Белы голуб — чысты голас.

# БАЛАДА ПРА НЯСВІЖСКАГА ДОЙЛІДА

У Нясвіжы ціхі вечар
Гасіць залатую восень.
З недабудаванай вежы
Муляры са смехам сходзяць
Да каханых і да жонак.
А адзін стаіць паныла.
Гэта — Казімір Ждановіч,
Дойлід князя Радзівіла.
Ён глядзіць туды, дзе нізка
Сонца вісне на каштанах,
Дзе расце тэатр нясвіжскі
Для Уршулі, яснай пані,
Каб сыгралі п'есы пані
З бласлаўлення волі божай
Пра шчаслівае каханне,
Незалежнае ад грошай,
Пра людзей магутнай волі,
Што за талент шчасце мелі.
І глядзіць паныла дойлід
На стварэнне рук умелых.
Будзе пані заставацца
Паняй — хай яна паэтка.
Ты ж — хоць сто збудуй палацаў,
Не твае палацы гэта.
І, як сонца шчыт чырвоны
Звонка падае з каштанаў,
Упадуць твае праклёны
У глухую ноч расстання.
І па ўсенькай Беларусі

Ты Нясвіж праслявіш горды.
Будзе ён, як песня-скруха
Пра любоў тваю і годнасць.
...У Нясвіжы ціхі вечар
Залатую гасіць восень.
З недабудаванай вежы
Вецер горкі ўздых адносіць.

# АПОШНІ БЕЛАРУСКІ КНЯЗЬ

А князь не рваўся ў змагары,
З халопам мог быць — князем толькі.
І помніў ён — хай свет гарыць,
Але захоўвай гонар продкаў;

Не прызнавай чужынцаў суд,
Не прызнавай убораў новых.
І ў мужыка,
і ў князя тут —
Адны — зямля,
і бог, і мова.

І князь бяднеў і пагарджаў
Суседзямі, што багацелі,
На паляванне выязджаў,
І ў рог трубіў, і трапна цэліў,

І «па-мужыцку» гаварыў —
«Бо каралі так гаварылі!» —
І лірнікаў любіў старых
Пра гераічных продкаў былі,

Іезуітаў гнаць казаў
З зямлі сваёй і ў хвост і ў грыву,
І да сякернага ляза
Так набліжаўся лёс імклівы.

За вышыню — пякельны ўдар.
За гонар — просты ўдар сякерай.

Хай феадал, хай — не змагар,
Ён — мову меў, зямлю і веру.

І апалячаным сваім,
І абрусеўшым спадкаемцам
Нічога ён не даў, акрым
Папрока-памяці бясконцай.

## БАТЛЕЙКА

Эх, ноч, вядзьмарына крывая,
Кладзі кулак пад галаву!
Нам поп анафему спявае,
І мы не ходзім у царкву.

А што царква?
Батлейка наша
Сама — у выглядзе царквы.
А ў ёй — і Юры, вой бясстрашны,
І Ірад, страшны, як жывы.

І пан Хрыстос заўсёды з намі,
І валасы яго з ільну.
Нябогу мы прымацавалі
Крыж
на драўляную спіну.

Ды ён не крыўдзіцца, напэўна,
Ён — свойскі хлопец, выраб — мой.
І на малюсенькую сцэну
Ідзе, нібы ў разведку — вой.

За што ж ты, бацюшка, не любіш
Нас, грэшных, з нашым рамяством?
Вясёлым — рай, а дурню — кукіш,
Што на труну гаворыць «дом».

Цябе ж мы, ойча, паважаем
І возім, як Хрыста, з сабой —

Фігура важная такая
З аўчыннай чорнай барадой.

Цябе — не нас спасцігне кара,
Бо ўдзень відаць нам і ўначы
Анёлаў лялечныя твары
Між маляваных аблачын.

## МЯЛЕЦІЙ СМАТРЫЦКІ

Мяжа.
А з абодвух бакоў — на крыжу.
А ты — пасярэдзіне хочаш застацца.
Зямля пад нагамі ў крыві, бы кажух
Табою паднятага ў бойку паўстанца.
Часіны крывавыя —
крылы даюць.
Але адчувальней для сэрца —
улада.
Паплечнікі плюнуць,
але — не заб'юць.
(Вятры забіваюць заўсёды крылатых.)
Крыжы — скрыжаваныя, быццам мячы,
Цвікамі з'яднаны,
як дрэва,— і рукі...
Ты люд бласлаўляеш.
Ён грозна маўчыць.
Ты молішся небу —
а з неба —
ні гуку.

## БАЛАДА ПРА НАПАЛЕОНА ОРДУ

«Там, ад роднай Беларусі,
Сцюжы птушак праганяюць.
Там чужых герояў любяць,
А сваіх — не заўважаюць.

Чый артыст я?
Рускі? Ляшскі?..»
Так маліўся перад крыжам
Пан дырэктар італьянскай
Слаўнай оперы ў Парыжы.

У душы выгнанца гнеўнай
Цэлае адно стварылі
Вучань зорнага Шапэна
І студэнт мяцежны з Вільні.

Ад суровае Радзімы
Гоняць годных буры-сцюжы.
На Радзіме — вечна зімы
Тым, хто век Радзіме служыць.

Беларускія пралескі,
Дзеячы культуры роднай!
Вас па розных каралеўствах
Разняслі бяда і годнасць.

Вось і Орды, беларуса,
Музыку на свеце цэлым
Ведаюць і любяць людзі —
Толькі не на Русі Белай.

Гэтак наймічка ў мястэчку,
Стрэўшы сына-багацея,
Перад «панам» ледзь не ўкленчыць,
І «сынок» сказаць не смее.

Час ідзе. Але не спляжыць
Мноства прозвішчаў знаёмых.
Маразы ў староцы нашай
Гоняць птушак прэч ад дому...

# ШЛЯХЦІЦ ЗАВАЛЬНЯ

Як лёс, шалее завіруха —
Аж слёзы выспелі ў вачах.
Вандроўнік, бачыш?
Да прытулку
Табе агеньчык меціць шлях.
Не, нездарма міргала свечка!
Пашана хаце —
добры госць!
Заходзь, вандроўны чалавеча,
І ў бессмяротнасць уваходзь!
На Белай Русі —
век завеі.
Зацішка нам не прычакаць.
Галота казкай сэрца грэе.
Дазвольце казку распачаць.
Эх, браце!
Часу снег няўмольны
Засыпле ўсё —
і тут, і там.
На Белай Русі — белым полем
Застацца вам,
застацца нам.
І тое, што цяпер гаворыш,
Чужою мовай замяце...
А ты запісвай —
пра паморак,
Пра лесуна і пра чарцей...
Нас тут сагнала завіруха,
І ў нас ёсць келіх —
і агонь,

І свечка на акне варушыць
Сваю маленькую далонь,
І новы госць ужо ля брамы,
Прыйшоў па ласку і цяпло...
...І Беларусь плыве над намі —
Завеі
белае
крыло.

## МАЙСТАР

Драціны, як сівыя валасы,
Пераплялiся ў дзіўнай прыгажосці.
І не кранулі іх узор часы,
Хаця ад майстра засталіся косці.

Той майстар, адмысловы наш зямляк,
Каваў з жалеза кветкі і карункі,
А каб пражыць —
нажніцы на кірмаш,
І ланцугі —
вышэйшага гатунку.

Ён майстра быў,
і ён любіў метал,
Таму паперку не лічыў за грошы.
Звінеў ад промняў кованы партал —
І ланцугі —
у пыле прыдарожным.

...На чарапіцах кроплі расцвілі,
Нібы на шчоках, ад агню смуглявых...
Звон
раздзімаў
ссівелыя вуглі
І прыгажосць заўзятую
няславіў.

## ГАСПОДА

Няўжо майстэрства —
гэта старасць?
Няўжо нам
старасці жадаць?
То — школярам
напэўна радасць —
У вузкіх вулках
горла драць.

А мы —
чаляднікі.
Падмайстры.
Прад кожным з нас —
галодны шлях.
Зрабіцца ж майстрам —
кожны марыць,
Хто мае талент у руках.

Цалуе майстар
куфлі піва,
А мы пакуль —
сваіх дзяўчат.
Гаспадара несправядлівасць
Сцярпі,
змаўчы,
стрымайся, брат.

Пакуль з сябрамі —
ты не трэска.
За крыўды б'е гаспадароў

У Полацку, Гародні, Менску
Гаспода — брацтва падмайстроў.

Гаспода, гэта, браце, — сіла!
Калі табе ўсміхнецца час,
Не забывай — яна вучыла
Быць вернымі мастацтву нас.

3. Зак. 5249.

## ЯН БАРШЧЭЎСКІ

Наперадзе — вецер.
                    За ветрам — жытло,
Якое ніколі цябе не спазнае.
Аднойчы прыходзіць у сэрца цяпло —
І сувязь з утульнымі сценамі тае.
Ідзе не па сцежках — па спевах ідзе
Аматар, бы кветкі,
                    збіраць калыханкі.
І лёс у спявучай купальскай вадзе
Вянком залацістым сплывае ў світанак,
І коціцца сонцам
                    над пылам двароў,
І песню —
          святую і вечную — будзіць...
...І мова — чужая,
                    пад ціскам вятроў
Кладзецца на запіс —
                    як глеба на грудзі.

## 1864

На ранішнім снезе ні следу —
дзівота!
Здаецца, ступіць —
быццам грэх сатварыць.
А чорны вярхнік
на шляху адзіноты
Па белым,
па сонечным полі імчыць.
Усё чысцінёй першароднай абнята.
Па грудзі каню —
шаргатлівы сумёт.
Да лесу спалохана
ціснуцца хаты,
А ранак празрысты звініць,
быццам лёд.
З хацінак ніхто
не выходзіць за дзверы —
А раптам пакліча
ці зойдзе вярхнік?
Прададзеным
цяжка ў свабоду паверыць,
Якую крывёй здабываюць для іх.
А хто здабывае?
З якой гэта ласкі?
Не, браце,
падмануць і тысячны раз.
Пра вымерлых волатаў
сумныя казкі
Больш блізкія,
больш дарагія для нас.

А лес набліжаецца.
Гурбы глыбеюць,
Глытаючы конніка разам з канём.
...Глухое рыданне:
«О божа! Не верацьǃ»
Заціхла пад белым, як жах, дываном.

# БАЛАДА ПРА ФРАНЦА САВІЧА

Птушкі белыя паселі
На зжаўцелую траву.
— Як жывеце, доктар Гельгег?
— Дзякуй богу, шчэ жыву...

Снежны цар шатры раскінуў
Зноў ля кожнага двара...
— Як вам, доктар, у Расіі,
Без Палесся, без Дняпра?

Без імя, без родных песень,
Без курганістай зямлі?
Можа, вы ў мясцовым лесе
Кветку-папараць знайшлі?

Да зямлі святочна белай
Сонца хіліць галаву.
— Як жывеце, доктар Гельгег?
— Дзякуй богу, шчэ жыву.

Ці Радзіма там жывая?
Бо яе на лахманы
Разам з мовай разрываюць
Нашы дурні і паны.

Бо яе баяцца — цэлай,
І, сярод Еўропы ўсёй,
Белае чвартуюць цела,
Каб змяшаць з чужой зямлёй.

Ці ўратуецца на свеце
Той куток святой душы,
Дзе дазволяць мне, нарэшце,
Францам Савічам пажыць?

...А зіма сувоі сцеле,
Сыпле бель на галаву.
— Як жывеце, доктар Гельгег?
— А хіба я тут жыву?

## КУРСІСТКІ

Вы жылі, паненкі-шыпшыны,
На маёй пакутнай зямлі.
Ад бацькоў, багатых і слынных,
Ад партрэтаў фамільных пыльных
У бядачкі-курсісткі йшлі.

Састрыгалі цяжкія косы,
Як адвечны жаночы шлях.
Не над пяльцамі — а над прозай
Дастаеўскага і Спінозы
Вы сядзелі па вечарах.

Як вы верылі, як любілі!
Як за любымі йшлі ў народ!
Толькі ў дзеўках часцей хадзілі
Ці ўміралі вы ад сухот.

І ў дзявочых танклявых пальцах
Скальпель цвёрды быў, як душа.
Толькі ў ятрасці праклямацый
Ды ў самоце пад час вакацый
Голас ваш цудоўны дрыжаў.

Вас цураліся нават блізкія,
І дзівіліся з вас віжы:
Што вам сілы давала выстаяць,
Польскі гонар у сэрцы вытравіць,
Беларускамі быць і жыць?

Перад вамі, бы прад святымі,
На калені хочацца ўстаць.
Хоць магілы вашы забылі,
Сэрцы вашыя маладыя
На шыпшыне вясной гараць.

## АДРАДЖЭННЕ

Вечаровы язмін —
у зорках,
Белым воблакам —
ля акна.
Беларускіх сяброў суполка
На паўсотні вёсак —
адна.
Сын дзячка
ды студэнт-няўдачнік,
Дзве настаўніцы
ды ляснік
За гарбатай сядзяць гарачай
І чытаюць:
«Што я — мужык...»
Ды — пра Вітаўта,
пра Сапегу,
Ды — пра вольнасць,
ды пра народ...
А па вёсцы гуляе рэха,
Бо на выгане —
карагод.
І вясковыя ходзяць пары,
Заўважаюць святло ў акне:
«Во паны
загулялі ў карты!»
«Во гарэлкі кожны ліне!»
«Там — паненкі,
відаць — каханкі.
Як ім
замуж пасля ісці?»

І смяюцца зоркі-заранкі
У блакітным густым лісці.
...Сціплы поціск рук — развітанне.
«Не сумуй! Беларусь жыве!»
...Праспявала вёска да рання,
Смех згубіла ў мокрай траве.

## НАСТАЎНІК

*В. Дуніну-Марцінкевічу*

Сіняя-сіняя ноч была,
Як вочы — колеру болю.
«Спыніць навучэнне.
Не навучаць.
Нікога больш. І ніколі».
Роднай мове — не навучаць.
Ні слова «хамам» — пра годнасць.
Яе беларусы мусяць аддаць,
Як права на першароднасць
Аддаў калісь галодны Ісаў.
Воля цара ці бога
Ці то чыноўная драбяза
Так хоча — але —
«Нікога!
Не навучаць!»
Не зазнае «хам»
Ні Буднага, ні Шэкспіра,
І ён па загаду зруйнуе храм,
І помнік засыпе жвірам.
«Не навучаць!»
Хай дзеці растуць
З пагардаю да Айчыны.
Хай у суседні народ ідуць
Найлепшыя іх мужчыны.
Дурныя, пыхлівыя слепакі!
У смерць беларусаў верацьь.
Не я навучу — дык навучаць іх
Вось гэты сівец і верас,

І зоры гэтыя, і агонь,
Што паліць пастух на лузе,
І казкі матчыны, і далонь
Ляснога возера,
бусел,
Які не кідае свайго жытла
І верны сваёй сяброўцы,
Любіць Радзіму да скону,
так
Як любяць расліны — сонца.
Не я навучу — дык навучаць іх
І годнасці паўнакрылай
Магілы мёртвых і боль жывых,
Мае — і боль, і магіла...
...Сіняя-сіняя ноч была,
І сінім-сінім быў позірк,
Калі агонь вясёлы жаваў
Урадавую адозву.

## СТАРАСВЕЦКАЕ КАХАННЕ

...Вітаю ясны край, дзе я бывала,
І дзён калісьці правяла нямала,
А шчасця ні хвіліны не спазнала...

*Леся Украінка*

Бераг мора вясну вітае.
Квецень вішняў. Эдэм сухотных.
І вішнёвы сок праступае
Гэтак часта на вуснах родных.
У кавярні ад гукаў цесна,
Набягаюць хвалямі гукі.
І на плеценых ручках крэслаў,
Як празрыстыя, вашы рукі.
Паглынае пясчаны бераг
Слёзы-вішні майго кахання...
Я ж для вас — ці сястра па веры,
Ці хаўрусніца па змаганню.
Ну зірніце! Ці ж я — пачвара?
Ці на шчасце правоў не маю?
О мужчыны, адданцы мараў,
Вы — забойцы жанчын адданых.
Разумею я ўсё: ахвярнасць,
Гераізм і святую мэту...
Толькі ўбачце ж ва мне, упарты,
Вы жанчыну, а не паэтку.
Зразумейце: сама я — вішня
Пад абцасам вашым няўважным...
Вось — барвовая пляма...
Цішэй...
Сок вішнёвы... Гэта не страшна.
Як душа, аблятае квецень,

Філіжанку рука губляе.
І прысела за столік трэцяй
Госця, што ад болю збаўляе.
Аднаго з нас Дадому просіць,
У свой свет, дзе няма бяздомных.
...Крым і мора. Плач безгалосы.
Квецень вішняў. Эдэм сухотных.

## ПЕРШЫМ БЕЛАРУСКІМ ВАНДРОЎНЫМ ТЭАТРАМ

Воўчае сонца, цыганскае сонца
Над Беларуссю маёй паплыло.
І па дарозе, як песня, бясконцай,
Коцяцца, шляхам, як гора, бясконцым
Нашы калёсы, тэатр і жытло.

Хто вы такія, у вышыванках
Пані-панове? З якой стараны?
— Мы — беларускае сцэны світанак,
Дзеці шляхцянак
і дзеці сялянак,
Мы — беларускія дочкі, сыны.

Колы ґрукочуць, нібыта рагочуць
Рэхам натоўпу ў мястэчках глухіх,—
Суму не ўчуе, хто ўчуць не захоча.
Зорак блішчаць васільковыя вочы.
Як і да славы, далёка да іх.

Гразнуць у лужынах коні і колы,
Гразне ў абразлівых кпінах душа.
Роднага слова вастраў вясёлы,
Першы тэатр беларускае школы
Зараз — мішэнь для пляўка і глыжа.
Воўчае сонца —
шчыт для героя,
Сведак для злодзея —
светла плыве.

Толькі любоў да Радзімы нам зброя,
Толькі бясконцая вера ў тое,
Што адрадзіць мы паспеем яе.

Спяць у павозцы паненкі-актрысы.
Дай бог бясхмар'я
іх душам святым!
Белая Русь, ты празрыстая, чыстая,
Ты перад ворагам здолела выстаяць,
Перад сваёй жа
пакорлівай сціпласцю,
Саманяўвагай —
ці выстаіш ты?

Воўчае сонца, цыганскае сонца
Над Беларуссю маёй паплыло.
І па дарозе, як песня, бясконцай,
Так, як змаганне і вера,
бясконцай
Едзе вясны беларускай жытло.

# КУШЛЯНЫ

Законнай цемрашалы лічаць цемру,
А чалавек
вястуе пра святло.
Заве туды —
дзе кулямі сустрэнуць,
Дзе вогнішчаў трывожнае цяпло.

Акенца кожнай хаты — крыж драўляны,
І кожны плот складаецца з крыжоў.
Сабачым брэхам замяло Кушляны.
Самотнай сцежкай
чалавек пайшоў.

За ім пайшлі каменні. Толькі людзі
Чагось чакаюць.
Ходзяць ля руін.
Шукаюць сцежку на зямлі,
у брудзе...
Але не гляне ў неба
ні адзін.

# ЛЯ БЮСТА ПАШКЕВІЧАНКІ

На сэрцы — агонь,
а на вуснах — лёд.
А кажуць, што лёд — на сэрцы.
Але ж за самы святы народ
Без болю не ўдасца ўмерці.
Без болю, жалю, без рэдкіх слёз,
Жаночых — таму — пякучых.
Дзіцячы смех у тваё жыллё
Не ўвойдзе — як неўміручасць.
Каханні прыйдуць яшчэ не раз,
Ды вуснаў не спаляць страсцю,
І часта клічуць цябе: «Сястра»,
І клікаць не будуць: «Маці».
Усё адгарыць-адбаліць з жыццём,
З пялёсткамі прыгажосці.
Пяройдзе ў бронзавае ліццё
Аблічча —
і страціць штосьці.
Яно захавае холад тваіх
Збялелых прыгожых вуснаў.
А там, дзе ў жывога — баліць-гарыць,
Холадна.
Мёртва.
Пуста.

## МАКСІМУ

На добры помнік
ты не зарабіў,
Як на прысутнасць бацькі ў час апошні.
Цябе мы грамадою прадалі:
Малюем,
славім —
толькі ўсё — за грошы.

Бядуем: смерць —
зладзюга...
Не! Яна
Была тваёй збавіцелькай, магчыма —
Другіх хрысціла вязніцы сцяна,
Другіх Сібір
ад розуму лячыла.

Меч ката
выў па гордай галаве —
Не ссек,
спазніўся.
Трэба з тым змірыцца.
Час —
як Марыя босая ў хляве,
Якую робяць абразы царыцай.

За агароджу бедную ляцяць
Каштаны-кулі...
Добры панцыр — глеба...
Прарокам маўзалеі не стаяць.
Прарок — бясплотны ліст зямлі ад неба.

Прыйшоў — вярнуўся...
Да паганскіх чаш
Не дакрануўся ні рукой, ні вокам...
Дык спі ў магіле беднай, гонар наш,
Даруй, як бацьку, нам,
што мы — далёка...

* * *

*В. Таўлаю*

Страляюць паляўнічыя на спеў
І шоргат крыл.
Кароткі лёс птушыны!
Лунай, паэт, хвалі, чаго не меў —
Свае заб'юць, як не заб'юць чужыя.
Цябе абвінаваціць — што зміргнуць —
Твая віна — ў тваім святым даверы.
Дзе рэкі беларускія цякуць —
Там праваму не верыць левы бераг.
Ці час такі, ці лёс няўдалы ў нас?
Край межавалі ворагі заўзята...
Каго ж прасіць — у песню не страляць,
Калі з бакоў абодвух стрэльбы ўзняты?
...Здавалася, што адступіла смерць
І вольная ад меж зямля ўздыхнула...
Паэт паспеў наўрад ці
зразумець,
З якога боку пасылалі кулю...

* * *

Грукоча глуха прэс друкарскі,
Шуміць папера. Плача бог.
І распладзіўся вокрык царскі,
І паляцеў на сто дарог.

І мы згубілі, што не мелі,
І аддалі сябе за так.
І ваўкалакі сто вяселляў
Ператварылі ў ваўкалак.

Паны змяніліся ў палацах,
У бок чужы вязуць лясы,
А ў гарадах на брудных пляцах
Сцягі, людскія галасы.

Змяніць няволю на няволю,
Нібыта на трызненне — сон...
І нельга зразумець ніколі
Народ, што сам ідзе ў палон.



# У кнізе лёсаў

* * *

Заставайся ў клетцы залачонай,
Ты сама абрала гэты лёс.

*У. Караткевіч*

Птушкі любяць волю. Ды бывае зрэдку —
Палюбіла птушка залатую клетку.
Птушка вызнавае залатую веру:
«Што вам, вастракрылым,
век ганяць
паветра?»

Птушка вучыць верыць богу залатому:
«Кожны птах у свеце мае мець па дому».
І яна шкадуе птушак тых у свеце,
Што лятуць на кулю, на стралу і вецер.

Што ж, люба́я птушка сыдзе за святую,
Толькі дай ёй клетку,
клетку залатую.

## СЁМАЯ ЖОНКА, АЛЬБО СОН СТАМЛЁНАЙ ГАРАДЖАНКІ

Пасля вянчання ад царквы
Да замка ехалі па кветках,
Пазалачаных і жывых,
Што кідалі сялянаў дзеткі.
Перад варотамі — кілім
Каля карэты рассцялілі,
Мой князь сышоў — і перад ім
Усе галовы нахілілі.
«Хадзем, вянчаная мая!
Прымі ўладанне над маёнткам!»
І блазан, пруткі, як змяя,
Вакол мяне скакаў з бразготкай.
І слугі цалавалі мне
Хто след, хто шлейф, хто чаравікі.
Ніхто ж у вочы — не зірне,
І кожны — быццам без'языкі.
А князь сціскаў маю руку —
Пярсцёнкі аж кусалі пальцы.
Ён паказаў мне кожны кут
У залатым сваім палацы,
Парсуны продкаў — каралёў,
Гасцёўні для паноў вяльможных,
І ў вежу кутнюю прывёў,
Каб паказаць пакой апошні.
Раскошна ўбраны быў пакой,
Шмат абразоў — і краты ў вокнах:
«Тут пройдзе век жаночы твой,
Сюды прынось кляцьбу ці стогны,

На людзі — ўсмешлівай выходзь.
З майго дазволу, зразумела.
Наш старажытны слаўны род
Пільнуе гонар свой умела!»
Я ўкленчыла, нібыта ў сне.
Між абразамі і сцяною —
Шэсць кос дзявочых... Як мае,
Ды перавіты сівізною.
За што адрэзаны яны?
За здраду? За нялюбасць проста?
І смерць глядзела са сцяны
Марыяй-дзевай безвалосай.
І я... прачнулася ў слязах.
Над горадам быў вечар шэры,
А з кухні плыў смярдзючы пах
Ад прыгарэлае вячэры.
Мой муж крычаў у зале: «Го-о-ол!»
І вылі на двары сабакі.
А на балконе мой анёл
Сядзеў і безнадзейна плакаў.

## ГАНДЛЯРЫ

Калісьці іх выгналі з храма вяроўкай.
Яны ж у другі запаўзлі непрыкметна.
Калісь гандлявалі пазногцямі бога —
А зараз гандлююць
лістамі паэтаў.
Лісты ад паэтаў складаюць у папкі,
Як быццам — білеты грашовай пазыкі.
А раптам хто з пішучых —
вылізне
«ў дамкі»,
Імя ўздаражае — і пісьмы вялікіх.
І нават жанчыны гандлююць...
Жанчыны!
Каханыя, любыя, Музы, Мадонны!..
Усё, што паэт прашаптаў для адзінай,
Адзіная робіць агульнавядомым.
У храмах гандлююць.
Выносяць на продаж
Інтымныя дробязі... Шэпат на вуха...
З вяроўкамі болей сюды не заходзяць,
І людзі не йдуць прапаведнікаў слухаць.

## ПАДЗЕМНАЯ ВАРТА

*(казка)*

На пальцах — кроў, у вочы — пот, —
Мы выбіраліся на волю,
Капаючы падземны ход
Са спратаў, чорных, як нядоля.
І вось — канец!
Нібы краты,
У панцырах шматдзённай працы,
Мы дзень спаткалі свой святы.
Мы так стаміліся змагацца!
І першы — лепшы чалавек,
Прыгожы, чысты — нас убачыў.
О родны!.. Мы цярпелі здзек
Дзеля тваіх братоў па плачу.
А ён спыніўся каля нас
З цікаўнасцю амаль гідлівай;
Ад нашых несла апранах
Крывёю, цемраддзю і цвіллю.
І крыкі радасці чамусь
Прысохлі да сасмяглых вуснаў.
«Нашто пакінулі турму?» —
Спытаў нашчадак беларусаў:
«Мне дзед калісьці гаварыў,
Што ў замкавых глыбокіх спратах
Сядзяць і сёння змагары,
Што забівалі ўсіх багатых,
Каб людзям бедным шчасце даць.
Ды сёння ў нас — няма забойцаў.
І вас не можам мы прыняць
У свеце розуму і сонца».

Так мовіў чысты чалавек.
А ўжо натоўп стаяў гарою,
Крычалі: «Крэс благой траве!
Прэч вы з нянавісцю старою».
І мы прыгнечана пайшлі
Назад, у бруд і пакаранне...
Сказаў старэйшы: «На Зямлі
Пакуты нашыя світаюць».
Сказаў старэйшы: «Трэба люд
Любіць, нягледзячы на раны.
Мы будзем жыць.
На ўсю зямлю
Мы патаемнай будзем вартай.
Няма ў жыцці шляхоў прамых,
Па трупах толькі смерць прастуе».
...І з тых часоў у спратах мы
Няўдзячную зямлю вартуем.

# ПЕСНЯ ПАМІРАЮЧАГА ВОЯ

Нядоўгі бурлівы свой век
Я смерці служыў, як царыцы, –
Яе пацалункам скарыцца
Павінен слабы чалавек.
Сузор'е Паўночнай Кароны
Вянчае яе галаву.
Служыў я царыцы да скону
І верыў, што годна жыву.
Я зведаў аднойчы каханне,
І двойчы мне славу раўлі,
І беглі за мной на аркане
Чужых астравоў каралі.
Мне ўсё даравала царыца,
Але — не раскайвання ўздых,
Калі я хацеў памаліцца
За душы забітых усіх.
Няўмольнасць!
Тваім пацалункам
Мне грэбаваць зараз не след,
Бо зброю пакінулі рукі,
А зброя —
не вызваліць свет...
...Зямля прарасла цішынёю.
Травою зямля прарасла...
Я думаў —
Радзіма —
за мною.
Яна ж —
пада мною была...

# БЕЛАРУСКІЯ ВОЛАТЫ

Нашы волаты спяць
пад сцяжынамі нашых турботаў.
Дробны тупат наверсе
не можа парушыць іх сон.
Як заснулі яны,
не знайшоўшы па сілах работы,
Так і спяць — хоць работы
з'яўляецца болей штодзён.
І калоціцца наша зямля
ад магутнага храпу.
І крыніцы бурляць,
і стаптаныя травы ўстаюць,
І адзін аднаго забіваюць Яфеты і Хамы,
А прыстойныя Сімы
малітвы прыстойна пяюць.
Беларускія волаты спяць.
Ім здаецца, напэўна,
Што над іх курганамі
Пагоня ляціць, як раней,
Тая ж мова гучыць,
і старыя спяваюцца песні...
Нашы волаты спяць у зямлі
ўсё глыбей і глыбей...
Так і будуць яны
апускацца да цэнтра зямнога,
Так яны і з'яднаюцца
з вогненным сэрцам яго.
Так глыбока да іх —
як да бога смяротным высока...

Я дарую ім смерць.
Не магу даравáць аднаго:
Што цяпер не баяцца
чужынцы ды дробныя людцы
Зверху ўніз паглядаць
на збяднелае цела зямлі.
Нашы волаты спяць.
І ніколі, бадай, не прачнуцца.
Іншых волатаў нашы жанкі
нарадзіць не змаглі...

# ВІТРАЖ

Блішчастыя шкельцы хрумсцяць пад нагамі,
бы косткі.
Замест вітража —
проста ноч і туман у акне.
Як пуста! Як страшна!
Ды месяца срэбная коска
Мне знак падае,
што працяг да ўсяго існуе.
За коскай павінна пайсці ўдакладненне —
ці вынік,
І ў вокнах разбітых язмін пачынае цвісці.
Усё прадаўжаецца ў свеце.
Нішто не загіне.
І мы не да кропкі — да коскі
ідзём па жыцці.
Маленькія шкельцы!
Вы — знічкі гісторыі нашай.
Збіраем мы вас, растаптаных
амаль што на тло.
Ды кожны па-свойму прыладжвае шкельца.
І страшна,
Што будзе вітраж
нейк іначай прасейваць святло.
А вунь, у суседнім акне,
гаспадарнік зычлівы
Стаўляе ўжо шкла магазіннага
бледны квадрат...
Давайце ж збіраць хоць па шкельцу,
упарта, рупліва,—
І фарбы, і рысы вяртаць Беларусі назад.

## КНІГА ЛЁСАЎ

Не ў жыцці —
у кнізе грэшных лёсаў
Я шукаў беспамылковы шлях.
Дзень чарнеў.
Дзяўчат сівелі косы.
Папяровым пылам дом прапах.
Навучыўся я чытаць у цемры.
(Вочы ззялі месячным ільдом.)
Прада мной праходзіў жыццяў шэраг
І палохаў непазбежным тлом.
Дзе ж мой лёс запісаны
цудоўны?
Да канца —
няшмат ужо лістоў.
Я цяпер —
як птушка над прадоннем —
Прадчуванне смерці студзіць кроў.
І радкі перад замглёным зрокам.
Расплыліся,
як па багне — цвіль...
Адгарнуў апошнюю старонку...
Там —
цямнеў
раздушаны
матыль.

## СТРАЛА

Адзінота стралы нашу смерць узвышае да бога.
Адзінота стралы выбірае цябе —
ці нікога.
Свісне неба — і плоць
невыразна і глуха адкажа.
Вокам раны смяротнай душа
паратунак заўважыць.
І няхай ганчакі ап'янеюць
ад свежага мяса,
Сонца будзе цнатлівым,
нібыта з рамонкамі ваза.
І страла перальецца
ў артэрый салёныя воды —
І жыццё амярцвее ад страшнай яе адзіноты.

## АРМАГЕДОН

...І калі ў той іконе,
што ўзнеслі на дах,
Затрымцела варожая дзіда,
Нехта ўспомніў:
«Ёсць вязень у гэтых мурах,
Ён прарок, хай тлумачыць нам дзіва».
І паслалі ў скляпенне з надзеяй на цуд
Гараджане
манаха і вояў.
І парушыў нарэшце сваю немату
Чорны вязень з сівой барадою:
«Што вам трэба?
Вы прагнеце праўды святой?
Вы ж яе праганялі, панове!
Надта доўга каралі мяне нематой.
Вы спазніліся.
Я ўсё прамовіў.
На любым скрыжаванні —
праменняў, галля
Ці пакорлівых спінаў і лейцаў
Нараджалася бедная песня мая,
І яе распіналі на месцы.
Больш не веру ні ў вечнасць,
ні ў праўду сваю.
Чуласць познюю
я ненавіджу.
Я,
ападак надзеі,
ападкам згнію.
Мне пакіньце скляпенную цішу».

І пасланыя ўбачылі:
ён — чалавек,
Брудны, хісткі,
душою зламаны...
І чакаць ратавання ад грэшнага —
грэх.

І яго яшчэ раз
пахавалі.
...І калі запалаў і палац, і кляштар
І згарэлі іконы і хаты —
Плыў над горадам
чорны і вольны
ўладар —
Цень адкідваў
у выглядзе
кратаў.

* * *

I возера паглынула замак
за грахі тых, хто жыў там...

Згінаюцца дрэвы ад подыху цёмнага ранку,
Вада паглынае каменні адзін за другім.
Зацягнуць гарлачыкі возера,
быццам бы рану,
І пройдуць гады,
і лазой зарастуць берагі.

З вакон электрычкі народ паглядае паныла
На брудную сажалку і перарэджаны лес.
За рэшткамі замка ў ваду
адыходзяць магілы,
І лес адступае ад шумнай дарогі далей.

Здаецца мне, нашы азёры —
чароўныя дзверы
У лепшы,
не здраджаны і не прададзены свет.
Туды сыступае былое святое
і веры
У нас пакідае не болей,
чым зерня ў асве.

Ідзе па начах
нетаропкае, сумнае шэсце.
Ідуць у азёры будынкі, звяры і бары...
Пасля высыхаюць азёры...
І мокрае смецце
Нікому не скажа, якія хавае муры.

Ізноў электрычка
прастуе праз роўнае поле.
Няўважныя позіркі ў ёй
і смурод цыгарэт...
І раптам — па шклу расцякаюцца
чорныя кроплі...
Апошняе возера
плюнула грэбліва ўслед.

# ГЕРОІ

Выпадковыя героі,
Што ад страху ўлезлі ў смерць.
Цяжка ім у бронзе строгай
На жывых пачвар глядзець.
Не фанатыкі — няўдачы
Пазашлюбныя сыны.
Смерць не можа быць задачай.
Выжыць — тайны сэнс вайны.
І жывым сябе не помніць
Мужны бронзавы балван.
І вянкі прымае помнік,
А труны пад ім — няма.
І вартуюць піянеры
Толькі камень, толькі міф...
А самотны цень жаўнера
Ловіць сонца між людзьмі.

* * *

Зямля нямая.
Славіць птах блакіт.
Той птах спасцігнуў вольную навуку.
Празрысты спеў
расце ва ўсе бакі,
А да зямлі —
не дастае ні гукам.

Гаворадь — птах даўно адкрыў сакрэт,
Як спевамі наблізіцца да бога.
Ён мог бы песняй
выратаваць свет
І шчасце даць — але ўзляцеў высока.

А там, наверсе,
славіць ён блакіт,
У космас голас гучны пасылае...
Натхнёны птах.
У пустку спеў ляціць...
І пра яго
ніхто
не памятае.

# ЗОРНЫ ПОПЕЛ

Зорка падала ў жвір —
абгарэлы камяк
Падарожныя ў попел крышылі.
Ім паказваў дарогу вільготны святляк.
Сёння — попел ад зор зварушылі.

І відушчымі робіць нас горкая кроў
Раскапаных даўнейшых злачынстваў.
Ды нямеюць відушчыя —
раптам ізноў
Згасіць цемра іх зрок прамяністы.

Мы пад ногі сабе пачынаем глядзець,
Разумець, дзе — казюрка, дзе — зорка.
Толькі — ходзіць між намі
нябачная Смерць,
Падслухоўвае нашу гаворку,

Прывілеі свае спадзяецца адняць,
Аднавіць для законаў паліцы —
І не кожны насмеліцца
зоркаю стаць
І з братамі святлом падзяліцца.

* * *

Мне нічога ад моцных
не трэба —
Хай гуляюць ва ўладу
па-царску —
Да зямлі набліжаецца неба
Старажытнейшым прэсам друкарскім.
І паверхня планеты пахмурай,
Ці маліўся ты,
ці не маліўся —
Чорна-белаю стане гравюрай
З дзіўнай назваю «Апакаліпсіс».
Ды стаіць,
урастаючы ў глебу
Беларускую —
прывід вялізны —
І ад нас адштурхоўвае неба,
Быццам волат які летапісны.
Хто ты,
беднай збавіцель радзімы,
Што рукамі гнеў божы трымаеш?
— Я — Францішак,
Кастусь,
Уладзімер —
Вольны дух улюбёнага краю.
— Гэткі моцны? — О не, толькі верны.
— Гэткі вечны? — О не, толькі ўпарты.
Я стаю, покуль будзеце ведаць
Кожны вобраз мой, кожную страту.
Адказаў — і напружыўся болей,
І на дрэвах кара затрашчала.

«Ён не знікне, не знікне ніколі»,—
Я шапнула — а твань — прамаўчала.
Ну а тыя, што ўладай гулялі,
Кашалькамі смяяліся звонка...
І ніжэй крумкачы пралятаюць
Над гатовай да друку старонкай.

## АПОШНЯЯ ДУША

Перад Брамай у Вечнасць
Спыніцца на хвілю хачу.
Што мне Вечнасць?
Яна не прыносіць ад болю збавення.
Мой анёл залаты —
Зайчык сонечны —
                                        на плечуку,—
Нешта шэпча, пяе,
Разганяе цяжкія трызненні.

Не табе, залаценькі,
Суцішыць, суцешыць мяне.
Я гляджу на зямлю —
І нічога не бачу за дымам,
І ніхто не шкадуе
Мяне на зямлі,
                                  не кляне —
Сёння ў Вечнасць са мной
І мая адыходзіць Радзіма...

Хай за Брамай сустрэну ўсіх любых,
Святых, дарагіх,
Што мне радасці ў тым,
Што яны — па-за межамі явы?
Мы сваё не любілі
Мы сваё не любілі
                                        паводле загадаў чужых,
І згубілі сваё,
І згубілі на будучнасць права...
Перад Брамай у Вечнасць
Стагналі мае землякі.

Як мне іх, самагубцаў,
Ля гэтай мяжы вінаваціць?
У далоні Радзімы
ўсе мы забівалі цвікі...
За апошняй дачкой
Адыходзіць на могілкі маці...

## ГАЛЕРНІКІ

Над намі зноўку ліецца кроў,
Прасочваецца між дошак
На потныя спіны. І кроў, і зноў —
Бязлітасны плётак пошчак.

Каго дагоніць наш карабель —
Навек абвянчае з морам.
А ў нашых жылах не кроў цячэ,
А стома, вечная стома.

Каго дагоніць наш карабель —
Той болей нічым не будзе:
Майно — забойцам, штандар — вадзе,
І лаўкам галерным — людзі.

Нікога, нікога нам не шкада,
Нічога няма на свеце,
Што вартае жалю. Вакол — вада
Бязлітасная і вецер.

Рабам — рабамі другіх рабіць —
Адна што бадай прыемнасць.
І трэба мора вёсламі біць,
Прыспешваць зла непазбежнасць.

Але аднойчы жахлівы крык
«Ратуйцеся!» — ноч прарэзаў.
І наш прыганяты кудысьці знік,
І мы прыўзняліся з месцаў.

І нейкія людзі да нас сышлі
З паходнямі, нібы суддзі.
«Каго вазілі, ведалі вы?
Што з вамі рабіць мы будзем?»

«Рабы мы!» — крыкнуў адзін, другі.
«Рабы!» — ды словы павіслі:
«Зірніце! Вашыя ланцугі
Даўно іржа перагрызла».

...Яны пайшлі. Засталіся мы
У цемры смярдзюча-мокрай.
...На золку новыя ланцугі
Ізноў абудзілі мора.

# ПАКАРАННЕ ПАЭТА

...І калі не спяваць аб Радзіме,
Дык навошта наогул спяваць?

У бронзавы час, калі ноч
нагадвае колерам бронзу,
За бронзавы стол ён сядае
і піша пяром пугачыным
На пругкім пергаменце
вершы
і прозу,
і вершы
і прозу.
І бронзавы поўні дзыгар
адбівае гадзіны.
Ён піша
і піша,
нібыта прадрапвае выхад
З гнілых сутарэнняў —
у вольную ночку лясную.
І след слімака на ілбе, як карона, успыхнуў.
То бог ужо ночку
смяротным вянцом каранує.
І прывід збірае паспешна
старонкі, старонкі —
Старонкі цякуць па руках валасамі русалкі,
І з бронзавых пальцаў
расой асыпаюцца звонкай
І вершы, і проза, і дробныя лёсу кавалкі.
...Усё, што напісана,
знікне на золку пахмурым,

Калі да Радзімы ні мовай, ні сном не прыкута.
І прывід хаваецца
у бронзавым пекле
для мудрых,
Што мудрасць і моц
аплаціць не схацелі пакутай.

# СОН

Нібыта ў дрымоце, нібыта ў адчаі
З сумленнем размову начную вяду.
Як з паваддзю,
трэба змагацца з маўчаннем,
Калі залліваюць маўчаннем бяду.
І я прачынаюся зноўку ад крыку,
І рэхам над дахам гудзе самалёт...
Чакаць і маўчаць
безнадзейна прывыклі.
Дазволілі крыкнуць — між звязкамі — лёд.
Пакутліва, хрыпла з'яўляюцца словы.
Днём скажаш —
а ноччу ад жаху трасе.
І мы адвыкаем саромецца мовы
У хустцы вясковай —
але — пакрысе...
Бяссонне не проста наш век
калашмаціць —
То кроў, абудзіўшыся, жылы ірве.
...Ідзе па руінах
Вялікая Маці,
Крыніцу жывую
нясе
ў рукаве.

## ПАСЛЯ СМЕРЦІ

Над магілай усплыла душа,
Футарал пакінуўшы сасновы.
На магіле не было крыжа,
І на камні чорным — ані слова.
Тыя, хто хаваў, зрабілі ўсё,
Каб з нябожчыкам схаваць і памяць,
І не ведалі, што смерць — не сон,
І не бездань, і не слова «Аман».

Як нованароджаны матыль,
Воблачкам другога існавання
Усплыла душа — і срэбны пыл
Строссе з крылаў на магільны камень,
Выпаліў няроўныя радкі
І злачынства словамі засведчыў.
І палын з разлапістай рукі
Сыпануў каровак божых свечкі.

І забойцам перабіла сон.
Душы іх, прывязаныя лодкі,
Ірванула хвалям наўздагон,
Над якімі вырас ветразь гонкі.
Кат задраіў фортку і акно,
Лжывы сведка валідол глытае...
...І прыснілі дзеці ў тую ноч,
Як душа Дадому адлятае.

## ЗАЛАТЫ ЛІХТАР

Я нікога не ўратавала,
Крыж пахілы не падняла.
Я прыходзіла ў замак жалю
З ліхтаром залатога шкла.
І прамень прада мною падаў,
І хавалася зло ў лаўжы,
І на ўсіх маіх слёз хапала
І хапала маёй душы.
Не была забойцам пагрозай,
Не была надзеяй ахвяр.
І працягваў дарогу ў росы
Для мяне залаты ліхтар.
Працякалі яшчаркі побач,
І гайдаліся кажаны.
Вечар, нібы ўрачысты пробашч,
З цішынёю мой жаль жаніў.
Ды аднойчы святло паўстала
Не ад сонечнага святла.
Я ж нікога не ўратавала!
Крыж пахілы — не падняла!
І душу ачышчалі слёзы,
Лекавалі — толькі маю...
І ліхтар зрабіўся анёлам
І пакінуў навек зямлю.

# УЦЁКІ

*Віктару*

Месяц крышыць святло, як шкло,
І раскідвае па палянах.
Рэжа вочы яго святло.
Ззяюць вочы пагоні шкляна.
Лесам зручна ўцякаць, але
Зручна вельмі цкаваць у лесе.
А балады зямных людзей —
Аб каханні смяротным песні.
Хай не будзе яшчэ адной!
Сып манеты пад ногі коням!
Звабяць, збліснуць яны маной —
Скнар хапае сярод пагоні.
А пасля густыя кусты
Мой асвеціць вэлюм вясельны:
У пагоне шмат маладых,
Спыніць шлях хоць адзін сумленны.
Ну а ў сэрцы лесу, дзе ноч
І лясное возера ў шлюбе,
Хто коней не ўпыніў — не збоч!
Ты сустрэнеш іх стрэльбай, любы.
Хай загіне першы між іх
Мой нялюбы былы жаніх.

* * *

*У. Караткевічу*

Мяне шпурляюць хвалі,
хвалі,
хвалі...
У тлуме свету заблукала я.
Чужыя хваляць...
Ну а сэрца паліць
Мая Ітака — Беларусь мая.
Мяне шпурляюць пад чужыя зоры.
Мяне не навучылі іх чытаць.
І адбірае душы мора,
мора...
Вось і маю жадае адабраць.
На сініх кроснах вытканa натхненне.
На сініх кроснах тчэцца прыгажосць.
Я ведаю — вярнуцца — не збавенне.
Забыты гаспадар — нязваны госць.
І аб каменні родныя разбіцца
Не дадзена!
Шуміць вада ў вушах:
«Нічога я не памятаю!»
Быццам
Кішэнь абрабаваная — душа.
А колькі нас, гаротных Адысеяў,
Не помніць шлях да родных астравоў,
Хто на чужыне ў глебу зерне сеяў,
Хто на чужыне ў неба рос травой,
Хто ноччу сніў пакутлівыя спевы,
А днём у кніжках лжывых іх шукаў!

О, колькі нас, гаротных Адысеяў,
І колькі ў свеце безыменных траў!
Мая Ітака!
Хвалі,
мовы,
словы...
І гнеў багоў.
Дакладней — гнеў магіл.
І коцяцца не зоры,
а галовы
Над шляхам паратунку
і тугі.

# СТАРЫЯ ІНТЭЛІГЕНТЫ

Старыя інтэлігенты
Беларускай зямлі!
Як мала вас ацалела,
Як многа вы зберaглі —
Сумленне і душы светлыя,
І мовы чысцюткі спеў,
І ветлівасць старасвецкую,
Здзіўляючую цяпер.
Апошнія перакладзіны
Над прорваю — з часу ў час —
Вам верыць у вечнасць дадзена
У свеце бязверных нас.
Мы слухаем рэха гулкае
Марзянкі былых гадоў,
Што кульбы вашы выстукваюць
Па сцежках старых кладоў.
І гэтак трывожна робіцца
І глуха — як боль у сне —
Што з вамі гавораць мёртвыя,
А вучні жывыя — не...
Старыя інтэлігенты
Беларускай зямлі!
У гэтым няўдзячным свеце
Прарокамі вы былі,
Натхнёнымі адвакатамі
Адной з прыгажэйшых моў...
Як меншае вас!
                І спратамі
Чарнее памяць сыноў.

* * *

Кляштар перарабілі ў дом жылы.
Стагоддзі, быццам пыл, з будынку змылі.
І грэшнікі, там жывучы, забылі,
Што тут жыццё іх — толькі цень пчалы.
І здольныя адчуць нябёсны мёд
Адны, пакуль бязгрэшныя, іх дзеці...
Праз дом праходзіць вольна вольны вецер,
І затыкае шчыліны народ.
І верыць: столь высокая таму,
Каб люстры крышталёвыя павесіць.
І плацяць за кватэру кожны месяц
Тым, хто забраў — не тым, хто ставіў мур.
Багінь чакаюць, быццам каралі,
А каралевы шыюць занавескі.
А праз тынкоўку выглядаюць фрэскі,
Як жыхары захопленай зямлі.

## ПЕРАСЯЛЕНЕЦ

З абжытага месца зрывацца цяжэй і цяжэй —
Гады, бы карэнні,
з зямлёй замацоўваюць роднасць.
Але забівае ўсе вокны накрыж Неабходнасць —
Усё-ткі за родную хату
жыццё даражэй.

Цяпер — абжывайся як можаш на месцы
другім,
У садзе зарослым змайструй,
як і дома, арэлі...
А можа, ты, прыхадзень,
месца чужое заселіш,
І будуць з-за плоту паказваць табе кулакі?

...І будуць паштоўкі
на адрас прыходзіць стары,
І доўга ты будзеш казаць у размовах:
«Там, дома...»
...У садзе,
што твой папярэднік садзіў незнаёмы,
Пагаслі, сініцамі сталі твае снегіры...

# ГАРАДСКАЯ ЗІМА

Зорка вісне, нібы залаты арэх,
На з'інелым дроце трамвая.
Так нячутна сёння падае снег —
Быццам белая рысь ступае.

Мне не страшна, мне толькі сябе шкада,
Адзіноту сваю на свеце —
Гэту пошасць прыносіць заўжды зіма,
Барадой намятае вецер.

Дзень да дня ўсё чужэе народ наўкол,
Падазроней, сквапней, адчайней —
Гэта нашага часу такі закон,
Гэта Час халадоў звычайны.

Вось і вуліцы быццам бы людныя,
І да дому ўжо недалёка,
А ніхто не заўважыць — ці плачу я,
Паміраю ці бачу бога.

А сняжынкі кружляюцца, як у сне,
Непрыкметна, як плач сірочы.
Нібы ўвагаю нашаю
божы снег
Апаганіць сябе не хоча.

## ХЭВІ-МЕТАЛ

Ад страху
грукат
наш ратуе слых
У гэтым свеце чутак, плётак, здзекаў.
Калі звярэюць людзі — кожны з іх
Сябе адзіным лічыць чалавекам.
Па шчоках лістабой балюча б'е,
Нібы душу прыводзіць у прытомнасць.
І людзі твары хутаюць свае
У шалікі — і дзе царква — не помняць.
Дзяўчо ў люстэрку бачыць кожны дзень
Памады колер, туш на рэдкіх вейках,
Ад грыўкі цень, ад грубых жартаў цень —
Сапраўдны твар — не бачыла адвеку.
І бог сябе штодня шукае ў нас,
Свайго адлюстравання хоць бы рыску.
Відаць, паверыў за апошні час,
Што сам ён — злосны, ненавідны, нізкі.
Скалечаныя дзецьмі галубы
Дзяўбуць калючы дрот замест зерня.
...Ад грукату мужнеем,
як рабы —
Ад музыкі царкоўных песнапенняў.

## ВЕЧАРОВЫ ДОЖДЖ

Сіні вецер параніў аб зорку крыло
І крывёю заліўся празрыстай.
Ад дажджу пахаваліся людзі ў жытло,
І далонькі падставіла лісце.
Абдымаюцца ліпы
на даўніх кладах,
І трава небасхіл абдымае.
Нас, людзей, раз'ядноўвае
нават вада.
Жвір на могілках толькі яднае.
Вечаровым дажджом
быў адплаканы дзень,
І прамыта сцяжына для ночы.
І ў самотных кватэрах
самотных людзей
Час яшчэ бессэнсоўней
закрочыў.

* * *

Хто выдумаў, што чалавек
пакутаваць павінны?
У гэта верыць толькі той,
хто без пакут жыве.
Што меў за здзекі мой народ?
Ён выжыў, як ні дзіўна,
Каб з матылямі паміраць
на тручанай траве.

Хто выдумаў, што чалавек
любіць пакуты можа?
Для шчасных гэта — добры знак
без спачування жыць.
А нам бы шчасця — хоць крыху,
хоць трошкі шанцу, Божа!
Ад болю ў зморшчынах наш лёс,
сухоты — у душы.

Не верце тым, хто славіць твар
замучанай жанчыны.
І не прыўкрасіць праца рук
«ударніцы палёў».
«Ратуйце нас!» — крычым, крычым...
«Пакутаваць павінны»,—
Адказвае спакойна нам
раскормленае зло.

# У БІБЛІЯТЭЦЫ

Пасляваенныя газеты
Тут у падшывачных тамах
Квадратамі пустэчы зеўрацць,
З якіх глядзіць былога жах.
То дабрачынныя нажніцы
З эпохі выскублі шматкі...
Якія лёсы ў дзірках зніклі,
Якія твары і грахі?
Вядома, проста ўзяць ды зрэзаць
Сляды бяздарнасці сваёй...
Пасляваенныя газеты —
Канкрэтнасць,
яснасць і спакой.
Пасляваенныя газеты
Не ўмеюць ціха шамацець.
Звіняць яны ўрачыста-медна,
Нібы старых аркестраў медзь...
Гартаю цяжкія падшыўкі.
Здаецца —
быццам за спіной
Рыпяць чысьці чаравікі
І пільна сочыць хтось за мной.

## ЦІХІ ЧАЛАВЕК

Сябар, з якім ты ніколі не ўбачышся болей,
Кожным лістом запрашае прыехаць, сустрэцца,
Пішаш і ты, і ніколі не скажаш:
«Даволі!»,
Хоць успаміны даўно не кранаюць вам сэрца.
Вось і жанчына, якую кахаў па-вар'яцку,
Звоніць табе
і смяецца над жонкай тваёю.
Што табе тая жанчына?
Ні кропелькі страсці.
Толькі і ёй ты ніколі не скажаш:
«Даволі!»
Вось і архангелы смерці цябе даганяюць,
З болем жыццё адыходзіць паволі, паволі...
Ты праз бяссонне
маўкліва працэджваеш
памяць,
Церпіш наведнікаў, боль —
і не просіш:
«Даволі!»
Будуць на могілках ліць
то гарэлку, то словы,
Вораг зарумзаны,
сябар падпіты, вясёлы...
Сам бы Хрыстос абурыўся.
А з хаты сасновай
Ціха, бязвольна
душа выцякае на зёлкі.

* * *

*Памяці Яўгеніі Янішчыц*

Ад самоты ні талент, ні бог
не ратунак.
Жыць самотна жанчыны не ўмеюць.
Як для яблыка першы зямлі пацалунак —
Гэта боль і пачатак смерці,
Як для хвалі абдоймы жаданага плёсу —
Знак расстання адразу за стрэчай —
Для жанчыны дарункі багатыя лёсу
Пачуццё абвастраюць пустэчы.
І калі ў самым росквіце,
самым узлёце
Нават самая ў свеце шчасліўка
На зайздросных вачах у нябыт адыходзіць
Спелым яблыкам,
хваляй вялікай —
Не шукайце прычын, не распальвайце
страсці,
Бо адкрытая небу прычына:
У вялікім сваім, дабрабытнейшым шчасці
Самотнай
была
жанчына.

* * *

Пад ссохлым лістом задрамала
маё павуціннае шчасце
Да першага подыху ветру,
да першай таропкай нагі.
Калі ж навучуся без жалю
прыгожае, лёгкае — траціць,
Людзей, не жадаючых веры,
братоў па бязвер'ю — любіць?
Нікому між іх не патрэбны
мае задуменныя словы,
Нікога між іх не хвалюе
мая вершаваная ноч,
Бо кожны з жывучых — як неба,
бяздонны, штохвіля — то новы,
Але — і адзіны, як неба,
якому зямлі не відно.
А шчасце, нібы павуцінне,
канец Арыяднінай ніці,
Што з цемры аднойчы выводзіць —
і рвецца ля брамы ў святло.
Анёлы па перайку скінуць —
і вось праз пустыя вачніцы
Па кропельцы неба выходзіць.
...І лісце, і шчасце — на тло...

## МАРНАСЦЬ

Мы сталі слабымі, як цень.
Імкненне — і болей нічога.
Надзеяй канчаецца дзень,
Надзея — світанак другога.
Мы ведаем — трэба інакш,
Мы ў крытыцы смелымі сталі,
Запал падбадзёрваюць наш
Прамовамі ў актавай зале.
Ну што ж, ганарыся сабой,
Мой браце па спрэчках узнёслых,
Калі ў свой стандартны пакой
Ты прыйдзеш з пустою авоськай,
Пустой, як бясконцыя дні...
І будзем глядзець да світання
У вочы начной цішыні,
Пазбаўленай марных жаданняў.

* * *

Як страшна, страшна неба гасне
Асеннім першым надвячоркам.
Нібыта поп пагрозным басам
Пяе праклён гуляшчым зоркам.
Нібыта болей — анічога,
І барва гэтая — як саван,
І шамаціць, і коле ногі
Трава, што слалася ласкава.
І да вар'яцтва ясна помніш
Такі ж мінулагодні вечар.
Між тым і сённяшнім — было што?
Адно — нішто, адна — пустэча.
І ад вар'яцтва — бегчы трэба.
Знайдзі мяне, душа жывая,
Бо гасне, гасне, гасне неба,
Нібыта ветразь адплывае.

## МЕСТА

Па брукаваных вулках места
І поршні тэпалі, і кабці.
Бывала, дух тут лётаў свенты,
Часцей — нячысцік балі ладзіў.
П'янюга-гіцаль тут валяўся,
І мужны вой сплываў крывёю,
І залаты дынарый часам
Звінеў пад кульбаю крывою.
Па бруку трэсліся калёсы,
Смакталі трубкі балаголы.
Абуты горад быў — і босы,
У аксаміце быў — і голы,
То велічны, а то будзённы,
То будаваўся, то знішчаўся.
А брук ляжаў — ад часу цёмны,
А брук — быў цёмным люстрам часу.
А сёння тут шчыруюць людзі,
Асфальт кладуць і горад лаюць,
Што Местам, горадам — не будзе,
А стане — месцам для жыхарства.
Ты чуеш? Гаснуць стогны, шэпты
Стагоддзяў пад ґразёю чорнай...
...Да бога дух вярнуўся свенты,
А кожны з нас — здаецца чортам.

## ФІЛЬМ

Нам прадаюць з экранаў старажытнасць.
Нібыта крылы чорціку прышылі,
Папудрылі — і ўжо анёлам клічуць.
Паходні замяняе электрычнасць.
І рыцары, слабыя ад лікёраў,
Фальшыва-страсна
пра любоў гавораць,
Калі сярэднявечныя прынцэсы
На сукнях дэманструюць ім
разрэзы.
І асцярожна, каб не драпаць зброі,
Мячом аб меч пастукваюць героі.
Каму ўсё гэта трэба, бог ласкавы?
Адно што непадробна — мур каравы,
Які спынілі руйнаваць на тэрмін,
Пакуль на фоне тым не здымуць сцэны.
Нам прадаюць мінулае з экрана.
Прыкметы часу змазаны старанна,
І праслаўляюцца далёкім часам
Каштоўнасці сучаснага начальства.
А нехта, паглядзеўшы, і паверыць,
Што не было ніколі чыстай веры,
Ні мужнасці, ні годнасці дзявочай.
А хто ж цямноцце
берагчы захоча?
І зразумее розум небагаты,
Што ганарыцца продкамі не варта...
...І на экранах годнасць чалавеча
Гарыць, нібы ў кастрах
Сярэднявечча...

## ГАРАДСКАЯ ВОСЕНЬ

Паламаныя лаўкі
прыгожа засцеле лістота,
Паламаныя лёсы
прымірацца з болем глухім.
Гэта — восень зямлі,
гэта — жоўтая песня самоты.
Гэта — вочы шкляныя праспекта
і цемра над ім.
На каменных ілбах манументаў
памёт галубіны,
Быццам німбы апосталаў,
святасці вартых такой.
Адляцелі буслы —
і нябёсы — пусцей за вітрыны,
І лісты, як анёлы,
лятаюць над чорнай вадой.
Ліхтарамі разбітымі
вецер рыпіць, як касцямі
Канакрада на віселыні;
. Бег прыпыняе жыццё,
Пільна слухае сэрца сваё,
а адказвае — камень
Пад абцасамі дробнымі
злосных асенніх дажджоў.

## СТАРЫ АРТЫСТ

Стары артыст —
нібы кардонны месяц.
Ён страціў паркалёвы небасхіл.
Прайшлі каханкі,
як вясновы вецер,—
Анёлы сцэны, што не мелі крыл.
І што цяпер? Пад плот?
Ці ў багадзельню?
Няма аблічча —
чым жа гандляваць?
Героі драм плывуць суцэльным ценем,
І нат жыцця за імі не відаць.
Там, у жыцці, была не тая мова,
Цярпенне панавала там і жах,
Па-за тэатрам паміралі словы,
З царквы зрывалі вастракрылы дах.
А тут — пілі віно з каханнем лена,
Ігралі кожны вечар давідна.

Здавалася,
ўсё вечнае — на сцэне.
Ды — толькі сцэна вечная адна.
Цяпер —
нібы чужына прад вачыма.
Артысту — што страляцца, што старэць —
А пенсія ў мастацтве —
немагчыма.
За працаю пякельнай — толькі смерць.
І вось — стары...
І не змагар, і грэшнік,
Ні бацька, ні жаніх, ні гаспадар.

Ды чысцінёю боскай вока рэжа
Яму — пашыты небасхіл — штандар.
А Бог заўжды дарue суцяшэнне
Сваім нябёсным птахам і зямным,
Што шчабяталі на яго каленях,
Не ведаючы весела аб ім.

## КНІГАМ КАРАТКЕВІЧА

Невыносна глядзець мне,
што кнігі яго
не купляюць,
Як свяшчэнніку — стайню пабачыць
у храме сваім.
Чым цябе мацаваць,
чалавечая
цьмяная памяць,
Каб капрызна ў нябыт
не шпурляла хоць
самым святым?
Што ж вам трэба яшчэ,
гараджане,
дарослыя дзеці,
Колькі страсці крывавай,
выданняў якіх залатых,
Каб спыніць вашу ўвагу
на вамі ж распнутым паэце,
Каб да роднае мовы
прывык ваш
разбэшчаны слых?
Колькі ў нас збудавана
халодных
нявечных палацаў,
Статуй людзям, не вартым
травы на магіле сваёй...
А Паэт будаваў белы храм
на расчышчаным пляцы,
Што калісь быў падмуркам для храма —
зрабіўся зямлёй.
Ён стаіць, белы храм!
І званы не змаўкаюць ні хвілі.
Што ж на пляцы вы ўсё маршыруеце
міма дзвярэй?

Вы ж пусты дэтэктыўчык
за дзесяць хвілін
раскупілі!..
...Чым яе апраўдаць,
несвядомую
здраду
людзей?!

## КАЛЬВАРЫЯ

Заблудзіцца на могілках —
ёсць асалода такая.
Дзе каменні, як рэшткі чаўноў,
усыпаюць зямлю.
І збуцвелае лісце імёны шчыльней пакрывае,
Як пакрыла бяспамяцтва душы —
тваю і маю.
Чуеш, мастак?
Маляваў ты суровых герояў.
Мы іх не помнім.
Ты чуеш, забыты паэт,
Вечнасці любы?
Прастуе жыццё маладое
Праз надмагілле твае —
і рагочуць вароны услед.
А раней я сюды забрыдала паплакаць,
падумаць...
Так лісцё прыпадае
да горкіх карэнняў жыцця...
Цалавацца на могілках дзеці сучасныя любяць.
І бяззорнае неба глядзіць,
як апошні суддзя.

* * *

З маленства нас усе вучылі думаць
Па добрых казках даўняй-даўніны,
Што бедны брат — і добры, і разумны,
А брат багаты — злосны і дурны.
Магчыма, так.
Ды я не разумею,
Чаму ў галечы — кемней галава,
Чым горшы пан, што спачуваць умее,
За мужыка, што ўмее катаваць?
Было нам, дзецям школы, відавочна,
Хто ў бога верыць — ідыёт, вар'ят.
Што — Дастаеўскі з голасам прарочым,
Калі настаўнік пнецца за аклад?
Магчыма, так, і неба — спрэс пустое.
Ды я не разумею — чымсьці мы
Зрабіліся мудрэй за Льва Талстога,
Не прачытаўшы нат яго тамы?
А нам яшчэ крычалі ўсе пра шчасце,
Каб дзякавалі вечна мы... За што?
За беднасць, што мазгоў не можа дасці,
Ці за бязвернасць у душы пустой?

## ГАРАДСКІЯ ДЗЕЦІ

Казкі «на беларускай» маці вам не купляюць,
І пад час адпачынку
ў замкі не павязуць.
І вам ужо не пабачыць,
як піва наварыць заяц,
І як каза калядуе,
ніколі вам не пачуць.
Улетку заменіць вёску
для вас піянерскі лагер,
Дзе выраўнена шарэнгай
накормленае жыццё.
Не казачнік — а фарцоўшчык
асоба вашай павагі
З маленства вас навучылі
не казкі любіць — рыззё.
Вы сёння ў дварах ламалі
бясплотныя цельцы клёнаў,
А заўтра зможаце знішчыць
адной пастановай — парк.
О, дзеці беднага горада,
нібыта сівыя гномы,
Гуляеце вы ў дзяцінства —
здаецца мне зрэдку так.
І сумныя вашы вочы,
і жорсткія вашы гульні
Шкадобу не выклікаюць,
хутчэй — трывогу і страх...
...А казкі «на беларускай»,
як ліры залатаструнныя,
Маўчаць на кніжных паліцах,
хаця павінны — іграць.

## МАГІЛА КАМПАЗІТАРА

Адзін яго матыў для нас застаўся,
Прыкуты да магільнае пліты,
Амаль забіты ветрам, брудам, часам,
Амаль нямы.
Але — амаль святы.

Ад музыкі на камянях магільных
Яшчэ ніхто не марыў, не спяваў.
Але калісь ад Полацка да Вільні
Лятаў той спеў і душы чараваў.

І напяваў яго ў часы адчаю
Мясцовы кампазітар-беларус,
Калі сябры і ворагі маўчалі,
Ствараючы маўчаннем тым хаўрус.

Ім бог даўно адмераў выкупленне
Там, дзе ні слёз, ні смеху не стае.
Прыдушаныя музыкай каменнай,
Спяць Беларусь і крэўны сын яе,
Пакуль аднойчы людзі шчырым сэрцам
Не адшукаюць музыку сваю...

...І будзе дзень,
і неба скаланецца,
Свет змоўкне.
І каменні запяюць.



8. Зак. 5249.

## ГАРАДСКІ РАМАНС

Лета пахне пралітым бензінам,
Лета пахне асфальтам гарачым,
І рыпяць перасохлыя рыны —
Па дажджах неатручаных плачуць.

Лета пахне пабітаю цэглай,
Мёртвым пылам і мёртвай вадою —
Гэта храмы руйнуюцца дзеля
Любавання бетоннай сцяною.

Лета пахне дымком цыгарэтным,
Абыякавым, сінім, атрутным,—
Кураць людзі, што кожнае лета
Кроў ракі паміраючай муцяць.

Лета пахне жывой навальніцай,
Ледзьве чутна і чуйна-пагрозна.
І хавае Нямігу сталіца,
Як жанчына палонная —
слёзы...

# САКРЭТ ПРЫГАЖОСЦІ

Знайшлі сакрэт Страдзівары.
Каб скрыпка
были жывою,
Ён клаў вулканічны попел
Грунтоўкай пад чысты лак.
І скрыпка лунала марай,
І гукі грымелі морам,
І музыка грознымі кроплямі,
Як лава,
са струн цякла.
Шаноўныя навукоўцы!
Навошта ж гадаць-прарочыць,
Адкуль
у майго народа
Песень велічны звон,
Адкуль
набраліся моцы
Купала і Багдановіч?
Гэта ўсё той жа попел,
Попел —
пад хараством.

Бо гэтулькі ў нас згарае
Велічных даўніх ценяў,
Годнасці і імкненняў,
Талентаў і надзей,
Што чорны агонь вулкана
Кожны носіць у сэрцы,
І муры ацалелыя
Святлей,
чым думкі людзей.

Бо гэтулькі ў нас ахвочых
Будавацца на костках,
Лакіраваць апёкі,
Задраўшы насы,
                    ісці,
Што самай цямнюткай ноччу
Мы не ўяўляем,
                    колькі
Попел займае горкі
Месца
        ў нашым жыцці.

## АДУКАЦЫЯ

Нам ілгалі бессаромна доўга,
Хітра і бязлітасна манілі.
Слепату душы лічылі доўгам,
Тупасць — дабрачыннасцю лічылі.
А цяпер яны прызналі сціпла,
Мудрыя настаўнікі і суддзі:
«Мы не так, як трэба, вас вучылі.
Самі перавучвайцеся, людзі».
Што ж, магчыма, мы спазнаем самі,
Як лячыць абсечаныя крылы.
Ды бязвер'е — наш паганскі камень —
Нам насіць з сабою да магілы.
А былы настаўнік ці прафесар
Перад намі не апусціць вочы —
Ён маніў таму, што быў «пад прэсам»,
А цяпер таксама праўды хоча.
Што ж, за ўсё нябожчыкі адкажуць —
Панясуць яны віну любую...
Хутка ў школу пойдуць
дзеці нашы.
«Добры дзень» ці «Здравствуйте» пачуюць?

* * *

Мы — як чужынцы
на вуліцах нашых.
Дзе, і ў каго, і пра што ні спытай —
Па-беларуску ніхто не адкажа.
Хочаш, каб слухалі —
мову мяняй.
Мы — як чужынцы.
Нас не разумеюць
Ні кіяскёры, ні культпрацаўнік.
Па-беларуску гаворыш — падзея
Для мінчука, што ад мовы адвык.
Мы — як чужынцы.
Калі на праспекце
Чуеш гаворку на мове бацькоў —
Радасць такая —
як быццам бы стрэціў
Недзе ў Анголе сваіх землякоў.
Мы — нібы прыхадні ў нашай сталіцы.
Мовай «вясковай»
кляймёны наш рот.
Што ж нам рабіць?
Мове роднай вучыцца!
Мова памрэ,
а за ёю —
народ.

* * *

Ой, калядачкі, вярніцеся...
*З народнай песні*

Надыходзяць каляды,
і зоры вышэюць уноч.
Адыходзяць у цемру сябры выпадковых
расстанняў.
Надыходзяць каляды.
А песень не будзе ізноў.
Мы закруцім пласцінкі —
і ў музыцы дробнай
растанем.

Надыходзяць каляды.
Мой горад знямелы сцямнеў.
Нашы рукі халодныя цягнуцца да батарэі.
Заляцеўшы ў прыціхлы наш горад,
крутыя завеі
Мне спяваюць калядкі,
спяваюць,
спяваюць у сне.
Зноў у свеце каляды.
І месяц працягла звініць,
Як заслонка ў пакінутай,
выстылай,
выдзьмутай печы.
Глуха — звонкай калядкай
няма нас каму пабудзіць:
«Ды ці дома сам пан гаспадар?
Святы вечар!»

## ДЗЕНЬ СМЕРЦІ

Ён выпаў, каб растаць,
адлігі снег.
Ён быў па-чалавечы нетрывалы.
На міг прыкрыў зямлю —
так чорны грэх
Няшчыраю малітвай прыкрываюць.
Ён падаў цяжка,
быццам нежывы.
І не палёгку нёс, а прадчуванне,
І пах скляпенны леташняй травы,
І быў салёны смакам, як расстанне.
Ён біў у грудзі стомленай зямлі,
Як рэквіем па нашых мёртвых душах,
І плакалі зямныя каралі —
Рабы нябёс
і кожнага, хто дужы.
...Я нават ратавання не прашу
У гэты час,
у гэты боль вялікі...
А словы ападалі на душу
І таялі,
як мокры снег адлігі...

## НЕЦЯРПЕННЕ

Я ведаю — нават за лёс чалавечы
Не зменяцца людзі да мовы сваёй.
Я ўсё разумею —
а сэрца трапеча
Такім нецярпеннем і жальбай такой!
Здаецца — што варта
прыўзняцца і
крыкнуць
Прачулыя словы пра мову, пра лёс,
І ўсе адгукнуцца;
І мёртвая Прыпяць
Прачнецца ў лілеях і брошках стракоз.
Я ўсё разумею —
што трэба па кроплі
Дзяўбці між народам і мовай муры.
Ды толькі на гэта
жыцця нам не хопіць.
Таму і душа нецярпеннем гарыць.
Я ўсё разумею:
што столькі стагоддзяў
Нас жорстка вучылі цярпець і маўчаць.
Я ўсё разумею!
Ды толькі — ці згодзен
Так доўга наш край шматпакутны
чакаць?

## СВЯТЫЯ ЛІПЫ

Над могілкамі ліпы высяцца.
Скажыце, хто ляжыць пад вамі?
Крыжы згнілі.
На дрэвы хрысцяцца
Старыя па дарозе з храма.

У кронах — душы спапялелыя —
Вароны —
хмары наклікаюць.
Схіляе вецер ацалелыя
Крыжы —
нявечныя, як памяць.

І, можа, толькі ліпы гэтыя
Ва ўсім смяротным грэшным свеце
Адны і варты слова
«Верую» —
Ды губяць іх піла і вецер.

Лісцё апалае на могілках
Варушыць вецер ціхакрылы...
На свежы пень бабулька моліцца,
Нібы на свежую магілу.

## З'ЯЎЛЕННЕ ПАЭЗІІ

Паміж мною і сонцам — туман ды туман,
Паміж мною і ветрам — ваконнае шкло.
Я ў кватэры — як частка кватэры — сама,
Гарадскі чалавек, папяровае тло.

Я не ў госці — а да тэлефона іду,
Мой чарот не шуміць — упрыгожвае стол.
Я па кнігах вучыла жыццёвы статут
І дзядоўскую мову, чужую для школ.

Вось вісяць абразы — не жагнаюся я,
Кленчыць — сорамна, быццам баюся зямлі.
Я кажу, як і ўсе: «Не шкада, хай вісяць».
Як і ўсе, спадзяюся: «Ўратуюць калісь».
Паміж мной і суседзямі — брудны бетон,
Паміж мной і жыццём — тры паверхі тугі...

...Са званіцы нябёснай
абрынуўся звон,
Дах прабіў —
і да ног падкаціўся маіх.

# ЗМЕСТ

## У КНІЗЕ ЛЁСАЎ



## НА ВУЛКАХ МЕСТА

**Рублеўская Л.**

Р 82 Замак месячнага сяйва: Вершы.— Мн.: Маст. літ., 1992.— 126 с.

ISBN 5-340-00667-0.

**Рублевская Л. Замок лунного сияния: Стихи.**

Значнае месца ў кнізе Людмілы Рублеўскай займаюць вершы і балады на гістарычныя тэмы — як пра канкрэтны час і канкрэтныя асобы — ад Ефрасінні Полацкай да Валянціна Таўлая, так і міфалагічна-прытчавыя.

Паэтэса нарадзілася і жыве ў горадзе, і не дзіўна, што ў яе шмат вершаў пра горад, яго мінулае і сённяшні дзень.

Р $\frac{4702120202-040}{М\ 302(03)-92}$ 76—91 ББК 84Бел7

*Литературно-художественное издание*

*Рублевская Людмила Ивановна*
ЗАМОК ЛУННОГО СИЯНИЯ
Стихи
Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

*Літаратурна-мастацкае выданне*

*Рублеўская Людміла Іванаўна*
ЗАМАК МЕСЯЧНАГА СЯЙВА
Вершы

Рэдактар *Р. М. Яўсееў.* Мастак *А. І. Аблажэй.* Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава.* Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская.* Карэктар *Л. П. Бялова*

ІБ № 3459

Здадзена ў набор 01.07.91. Падп. да друку 09.12.91. Фармат 70×90¹/₃₂. Папера друк. № 1. Гарнітура звычайная новая. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 4,68. Ум. фарб.-адб. 4,90. Ул.-выд. арк. 3,72. Тыраж 1000 экз. Зак. 1523. Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва "Мастацкая літаратура" Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

З набору Мінскага ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбіната МВПА імя Я. Коласа, 220005, Мінск, Чырвоная, 23, друкарня «Перамога», 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11. Зак. 5249